# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 12 (59) Сьнежань 2011 г.

## Андрэй Саньнікаў: Я спрабую паведаміць, што са мной адбываецца...



Ад палітвязьня прыйшоў кароткі ліст з калёніі «Віцьба-3». Як паведаміла жонка кандыдата ў прэзыдэнты Ірына Халіп, у лісьце Андрэй Саньнікаў паведамляе, што атрымаў перадачу, і коратка адзначае: «Я спрабую табе і іншым паведаміць пра тое, што са мной адбываецца, але лісты не праходзяць. Мабыць, пошта ў твой бок навогул перастала працаваць».

Адначасова 27 сьнежня адвакатка палітвязьня Марына Кавалеўская, якая ўжо амаль два месяцы ня можа сустрэцца са сваім падабаронным, атрымала адказ на сваю скаргу з Магілёўскай абласной пракуратуры. У адказе гаворыцца, што адвакат ня быў дапушчаны да Андрэя Саньнікава ў Магілёўскую турму, дзе ён знаходзіўся ў перасылцы, зусім не таму, што ён транзытна перасыльны, а таму, што, аказваецца, ад яго нібыта не было заявы. Хоць гэта абсалютная лухта, бо яшчэ пасьля першага этапу, калі Саньнікава перавозілі з Наваполацку, была дамоўленасьць, што перш за ўсё ў выпадку яшчэ аднаго этапу палітвязень піша заяву на прадастаўленьне спатканьня з адвакатам у кожнай турме або калёніі, у якой ён апынецца.

«Відавочна, што з маім мужам нешта адбываецца. Мяркую, што менавіта што-небудзь з таго, аб чым казаў Зьміцер Бандарэнка. Гэта могуць быць катаваньні, галадоўка, цяжкая хвароба. І ўлады спрабуюць схаваць гэта любым спосабам. А гэты ліст прапусьцілі выключна з-за таго, каб іх не западозрылі, што яны прысабечылі перадачу», - лічыць Ірына Халіп.

# Паўтара мільёны штрафу за Народны сход у Віцебску




За арганізацыю Народнага сходу 8 кастрычніка Ірына Яскевіч аштрафаваная на 770 тысяч рублёў, а Тацьцяна Севярынец, якая была сакратаром сходу, на 875 тысяч рублёў — з улікам таго, што яе прыцягваюць да адміністрацыйнай адказнасьці за падобнае правапарушэньне ўжо паўторна. Суд над арганізатаркамі Народнага сходу распачаўся яшчэ 30 лістапада, на іх былі складзеныя пратаколы за парушэньне закону пра масавыя мерапрыемствы.

Судзьдзя Кастрычніцкана райсуду Іна Грабоўская, не зважаючы на тлумачэньні спадарыняў Севярынец і Яскевіч, што яны кіраваліся законам пра мясцовыя сходы, арганізацыя якіх не падпадае пад дзеяньне ніякага іншага закону, прызнала іх вінаватымі. Ірыну Яскевіч суд аштрафаваў на 22 базавыя велічыні, а Тацьцяну Севярынец — на 25 базавых велічыняў.

Абедзьве актывісткі зьбіраюцца абскардзіць рашэньне спадарыні Грабоўскай у абласным судзе, бо зь ім нязгодныя. На думку Тацьцяны Севярынец, абвінаваўчая пастанова суду была гатовая загадзя, і час на два паседжаньні быў проста змарнаваны. Ірыну Яскевіч асабліва абурыла тое, што судзьдзя Іна Грабоўская пяць разоў на працягу працэсу адмовілася выклікаць у суд міліцыянтаў Кастрычніцкага РАУС, якія складалі пратаколы пра правапарушэньне. Бо гэтых супрацоўнікаў на імпрэзе не было, і чым яны кіраваліся, калі пісалі, што адбылася несанкцыянаваная імпрэза, так і засталося невядомым.

Дарэчы, тыя супрацоўнікі міліцыі, якіх судзьдзя пагадзілася выклікаць, аднагалосна пацьвердзілі, што 8 кастрычніка на вуліцы Хмяльніцкага праходзіў менавіта сход з усімі належнымі прыкметамі: выступалі мясцовыя жыхары, адбывалася галасаваньне па асобных пытаньнях, была прынятая рэзалюцыя сходу і гэтак далей.

Праз колькі часу ад пачатку паседжаньня судзьдзя выдаліла з залі праваабаронцу Паўла Левінава, які выказаў меркаваньне, што суд сваімі пытаньнямі спрабуе заблытаць сьведак. Як вынікае з судовай пастановы, правапарушэньне з боку спадарыняў Севярынец і Яскевіч палягае ў тым, што яны правялі ня проста мясцовы, а Народны сход: як заявіла судзьдзя, правядзеньне менавіта народных сходаў заканадаўствам не рэглямэнтавана. Таму яна прысудзіла штрафы паводле артыкулу 23.34 — за правядзеньне несанкцыянаванай акцыі.

## Пацыент Багушэўскага сухотнага шпіталю абвясьціў галадоўку і адмовіўся ад лекаў

Інвалід другой групы Валер Ганчарэнка, хворы на адкрытую форму сухотаў, 12 сьнежня абвясьціў галадоўку ў Багушэўскім абласным сухотным шпіталі. Ён патрабуе паляпшэньня ўмоваў лекаваньня хворых на сухоты. «Я ўручыў афіцыйную заяву галоўурачу Натальлі Лясной, што я пачынаю галадоўку і адмаўляюся ад прыёму ўсіх мэдыкамэнтаў», - паведаміў ён. Тыднем раней Валер Ганчарэнка абвясьціў аб сваёй гатовасьці прынесьці сябе ў ахвяру замест «бязьвінна асуджаных “віцебскіх тэрарыстаў”».



## Адказ уладаў зьдзівіў праваабаронцу

Праваабаронца Леанід Сьвецік зьвярнуўся ў Віцебскі аблвыканкам з прапановай аб арганізацыі сустрэчы прадстаўнікоў улады з актывістамі праваабарончага руху. Такая сустрэча, на думку праваабаронцы, магла б паспрыяць наладжваньню шчырых і сумленных стасункаў паміж уладай і прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасьці. Адказ на сваю прапанову спадар Сьвецік атрымаў з Управы ідэалягічнай работы выканкаму. Зьмест ліста за подпісам галоўнага ідэоляга вобласьці Аляксандра Кліцунова вельмі зьдзівіў праваабаронцу.



"Як прадстаўнік праваабарончай супольнасьці Вы павінны ведаць, што... да зваротаў грамадзян, якія выступаюць у якасьці прадстаўнікоў юрыдычных асоб і (або) ў інтарэсах гэтых асоб, павінны прыкладацца дакумэнты, што пацьвярджаюць іх паўнамоцтвы. У гэтым выпадку яны адсутнічаюць. Для далейшага разгляду гэтага пытаньня Вам неабходна падаць адпаведныя дакумэнты," - гаворыцца ў адказе, атрыманым зь Віцебскага аблвыканкаму.

"У заканадаўстве Рэспублікі Беларусь не вызначаецца статус праваабаронцаў, - кажа Леанід Сьвецік. - Ніякі нарматыўна-прававы акт не патрабуе таго, каб праваабаронца ўваходзіў у нейкую афіцыйную арганізацыю. Сваю прапанову я падаваў як грамадзянін, ад сябе асабіста. Зьвяртаючыся ў аблвыканкам, я не сьцьвярджаў, што выступаю ад імя якой-кольвек юрыдычнай асобы. Дык што адказ аблвыканкаму незразумелы. Прычым тут нейкія юрасобы і дакумэнты, якія нібыта мушу падаць для пацьвярджэньня сваіх паўнамоцтваў? Я ж зусім не пра тое пытўся ва ўладаў, пра што яны мне напісалі. Як той казаў, я ім пра абразы, а яны мне пра гарбузы".

## Актывісты Віцебску будуць зьбіраць подпісы грамадзян для зьмяненьня Выбарчага кодэксу

Партыйныя і грамадзкія актывісты, а таксама праваабаронцы Віцебску чынна далучаюцца да ініцыятыўнай групы па ўнясеньні зьменаў у Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь. Пачынальнікам фармаваньня ініцыятыўнай групы, якая будзе зьбіраць подпісы за зьмены ў выбарчае заканадаўства, зьяўляецца кандыдат у прэзыдэнты на выбарах 2010 году Дзьмітры Вус. У склад ініцыятыўнай групы ўжо ўвайшло каля 1000 актывістаў з усёй краіны.

Пасьля таго, як ініцыятыўная група будзе зарэгістраваная, яе ўдзельнікі павінны сабраць сама меней 50 тысяч подпісаў грамадзян за ўнясеньне зьменаў у Выбарчы кодэкс. Калі неабходныя подпісы будуць сабраныя, прапанаваныя экс-кандыдатам у прэзыдэнты Вусам зьмены ў закон набудуць статус законапраекту.

Унесьці зьмены і дадаткі мяркуецца ў тры артыкулы выбарчага кодэксу. Гэтымі зьменамі і дадаткамі прапануецца на заканадаўчым узроўню замацаваць права кожнага незалежнага кандыдата накіроўваць сваіх прадстаўнікоў ва ўчастковыя выбарчыя камісіі. Прадстаўнікі кандыдатаў мусяць стаць паўнапраўнымі сябрамі гэтых камісіяў, браць удзел у падліку бюлетэняў, падпісваць пратаколы. Каб пазьбегнуць фальсыфікацыяў праз укід бюлетэняў, усе бюлетэні, згодна з прапанаванымі зьменамі ў выбарчы кодэкс, павінны быць папярэдне падпісаныя кожным зь сябраў участковых камісіяў.

Віцебскія праваабаронцы станоўча ацэньваюць ініцыятыву Дзьмітрыя Вуса. Яны кажуць, што прапанаваныя ім зьмены ў Выбарчы кодэкс паспрыяюць таму, што выбары стануць больш празрыстымі і сумленнымі, наблізяцца да стандартаў, прынятых у дэмакратычным сьвеце.

## Віцебскія праваабаронцы прызналі Сяргея Каваленку палітвязьнем




Увагу прадстаўнікоў віцебскіх праваабарончых арганізацыяў і ініцыятываў прыцягнула сытуацыя з актывістам КХП-БНФ Сяргеем Каваленкам. Як паведаміла жонка Сяргея, на яго заведзеная крымінальная справа паводле артыкулу 415 Крымінальнага кодэксу («ухіленьне ад адбываньня пакараньня ў выглядзе абмежаваньня волі»). Палітычнаму актывісту выстаўленае абвінавачаньне. Мера стрыманьня, прымененая ў дачыненьні да яго, - зьмяшчэньне ў Віцебскае СІЗА № 2.

Праваабаронцы заявілі, што яны лічаць Сяргея Каваленку вязьнем сумленьня, а яго крымінальны перасьлед з боку ўладаў - палітычна матываваным. Было прынята рашэньне сачыць за разгортваньнем сытуацыі вакол гэтай палітычнай справы. Праваабаронцы будуць уважліва назіраць за ходам сьледзтва, каб яно адпавядала дзейнаму крымінальна-працэсуальнаму кодэксу, Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і нормам міжнароднага права.

Сяргея Каваленку арыштавалі 19 сьнежня ў межах распачатай супраць яго крымінальнай справы. Актывісту пагражае да трох гадоў пазбаўленьня волі.

# Канстытуцыйны суд адмовіўся абараняць правы грамадзян

Віцебскі праваабаронца Павал Левінаў паспрабаваў быў адстаяць правы асобаў, у дачыненьні да якіх вядзецца адміністрацыйны працэс, на вызваленьне ад адказнасьці з прычыны сканчэньня тэрміну даўнасьці. Дзеля гэтага ён зьвярнуўся ў Канстытуцыйны суд. Аднак суд ня стаў разьбірацца, ці не супярэчаць нормы дзейнага кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях Канстытуцыі. “Узбуджаць вытворчасьць і выносіць заключэньні на падставе зваротаў грамадзян Канстытуцыйны суд не ўпаўнаважаны", - гаворыцца ў атрыманым праваабаронцам адказе.




Тэрмін даўнасьці зьнік, па сутнасьці, з адміністрацыйнага кодэксу пасьля ўступленьня ў сілу закону ад 28 сьнежня 2009 году “Аб унясеньні зьменаў і дадаткаў у некаторыя кодэксы Рэспублікі Беларусь па пытаньнях крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасьці". Згодна з гэтым законам частка 2 артыкулу 7.6 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях была прынятая ў новай рэдакцыі.

У ранейшай рэдакцыі згаданага артыкулу пазначаўся канкрэтны тэрмін з дня зьдзяйсьненьня правапарушэньня. Пры новым разглядзе справы пасьля адмены пастановы суду ў выніку скаргі або пратэсту адміністрацыйнае спагнаньне магло быць накладзенае толькі ў гэты тэрмін. У дзейнай рэдакцыі такога тэрміну няма. Застаўся толькі тэрмін, адлік якога вядзецца ад даты адмены пастановы.

“Падчас правядзеньня маніторынгу судовых разьбіральніцтваў выяўленыя выпадкі, калі суды неаднаразова адмяняюць пастановы па справе аб адміністрацыйных правапарушэньнях і накіроўваюць справу на новы разгляд. Грамадзяне вымушаныя аплачваць скаргі дзяржаўнай пошлінай, якая ў суме значна перавышае памер адміністрацыйнага спагнаньня ў выглядзе штрафу, і, ня бачачы канца, адстойваць сваю невінаватасьць", - адзначае Павал Левінаў.

“У цяперашні час Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь вызваляе асобаў ад крымінальнай адказнасьці ў сувязі са сканчэньнем тэрмінаў даўнасьці, а Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэньнях - не! Ці ня ёсьць гэта недарэчнасьцю? Вызначаны тэрмін пазоўнай даўнасьці і ў Грамадзянскім кодэксе Рэспублікі Беларусь", - заяўляе праваабаронца.

Начальнік сакратарыяту суду Аляксандар Каравай, чый подпіс стаіць пад адказам, які атрымаў праваабаронца на свой зварот у Канстытуцыйны суд, даў такое тлумачэньне: “Для грамадзян вызначаны ўскосны доступ да канстытуцыйнага правасудзьдзя - яны зьвяртаюцца з ініцыятывай аб праверцы канстытуцыйнасьці акту да ворганаў і асобаў, якія маюць права ўнясеньня ў Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь прапановаў аб праверцы канстытуцыйнасьці акту".

Такім чынам, як вынікае з адказу спадара Каравая, калі праваабаронца хоча, каб Канстытуцыйны суд нешта праверыў на прадмет адпаведнасьці Канстытуцыі, яму трэба зьвярнуцца з заявай да аднаго з суб'ектаў права заканадаўчай ініцытятывы. Гэткімі суб'ектамі зьяўляюцца прэзыдэнт, дэпутаты Палаты Прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі, урад, а таксама грамадзяне, якія маюць выбарчае правы, у колькасьці ня менш за 50 тысяч чалавек.

Бюлетэнь “За правы чалавека” выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.